**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**№44(656)**
**1 лістапада 2012 года.**
**Кошт свабодны.**





Першы снег нагадаў, што Новы год ужо «не за гарамі»!

Photo ByMedia.net

## Арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці і біскуп Уладзіслаў Блін прынялі ўдзел ва ўрачыстасці ў Лучаі

27 кастрычніка 2012 г. на свята св. Юды Тадэвуша ў Лучай прыбыў Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел таксама біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін, сакратар Апостальскай Нунцыятуры кс. Філіпа Чампанэлі, святары з Мінска і іншых парафій, шматлікія вернікі, дзеці і моладзь. На святкаванне прыбыла і вялікая група дзяцей разам са сваім душпастырам з Нарачы.

*Фота кс. Юрыя Марціновіча і с. Марыны Брылёнак.*



**Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці (злева) і біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін.**

**Лучай. Унізе – кс. Мікалай Ліпскі, пробашч лучайскай парафіі і Апостальскі Нунцый Клаўдыё Гуджэроцці (справа).**







### МНС інфармуе
**на 30.10.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 945;
Гібель людзей – 116, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 5107.6 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 38;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон – 275 150 000 руб.

Полацкі раён

# Яшчэ адна база

■ Чэслаў Якубовіч

**Усё бліжэй зімовыя Алімпійскія гульні ў Сочы, дзе па-ранейшаму найбольш шанцаў у беларусаў на заваяванне медалёў у біятлоне.**

Аднак асноўны айчынны трэніровачны цэнтр у Раўбічах патрабуе мадэрнізацыі, каб там можна было праводзіць не толькі зборы, але і этапы розыгрышу Кубка свету. На перыяд яго абнаўлення асноўнай базай для падрыхтоўкі атлетаў стане Наваполацк, дзе на базе мясцовага вучылішча алімпійскага рэзерву днямі ўрачыста адкрылі сучасную лыжаролерную трасу. Яна размясцілася ў пасёлку Баравуха, дзе некалі былі воінскія часці. Пасярод лесу з перападам вышыні 156 метраў пабудавалі асфальтаваныя дарожкі працягласцю 2,5 кіламетры. Вакол трасы шмат вадаёмаў і пры дапамозе снежных пушак можна ствараць зімовыя ўмовы, нават калі адліга і добра прыгрэе сонца і растопіць снег. На адкрыццё біятлоннай базы спецыяльна прыехаў кіраўнік Віцебскай вобласці Аляксандр Косінец і парадаваў спартсменаў і навучэнцаў вучылішча тым, што для іх неўзабаве будзе абноўлены камфартабельны інтэрнат. Ад кіраўніцтва вобласці ў падарунак спортвучылішчу перадалі 15 камп'ютараў навейшага пакалення і 50 млн. рублёў на закупку біятлоннага інвентару. Па суседстве з базай у былым Доме афіцэраў зробяць сучасны Палац культуры, дзе змогуць адпачыць пасля напружаных трэніровак майстры біятлону. Ім таксама федэрацыя біятлону Беларусі выдзеліла сродкі на закуп вінтовак, якія адпавядаюць міжнародным стандартам.

Верхнядзвінскі раён

# Чэргаў стане меней

■ Кастусь Александровіч

**На працягу гэтага года на большасці пагранпераходаў дзяржаўнай граніцы Беларусі на прыбалтыйскім накірунку існавалі вялізныя чэргі легкавых і грузавых аўтамабіляў.**

Сітуацыя яшчэ больш ускладнілася ў сярэдзіне лета, калі на рэканструкцыю закрыўся пункт пропуску "Грыгароўшчына", што ў Верхнядзвінскім раёне. Трапіць у Латвію можна было толькі праз пункт пропуску Урбаны ў суседнім Браслаўскім раёне, дзе чэргі сталі дасягаць некалькі кіламетраў. На шчасце, цяпер крыху аблегчылася жыццё для вадзіцеляў-дальнабойшчыкаў. Роўна праз 3 месяцы работ па рэканструкцыі дарожных палос руху Грыгароўшчыну стала не пазнаць. Па дзяржаўнай праграме абуладкавання пунктаў пропуску тут адкрыліся абноўленыя дзве паласы на выезд і адна на ўезд для фур. Стала прасцей і беларускім, і замежным вадзіцелям аўтобусаў і легкавых аўтамабіляў, для якіх таксама адкрылі новыя палосы руху. Аднак работы на аб'екце прадаўжацца, паколькі завяршылі толькі першы этап маштабнай рэканструкцыі. На чарзе маштабнае абнаўленне такіх буйных пунктаў пропуску як "Каменны Лог" і "Новая Гута". Да 2015 года пасля завяршэння падобных работ па мадэрнізацыі на граніцы прапускная здольнасць усіх пунктаў пропуску павялічыцца да 39 тысяч машын у суткі. Адзінае, што пакуль беларускае кіраўніцтва тармозіць адкрыццё малога прыгранічнага руху па бязвізавай схеме з Літвой, хоць літоўцы былі гатовы да гэтага яшчэ сёлета зімой. Суседняя Польшча гатова адкрыць свае граніцы для беларусаў прыгранічча з верасня 2010 года, але нашы ўлады на гэта не ідуць.

Полацкі раён

# На паратунак храму

■ Станіслаў Раманчук

**У выніку нядаўняга моцнага восеньскага ўрагану ў Прыдзвінні найболей пацярпелі Полацкі і Браслаўскі раёны, дзе парывы ветру дасягалі нават 28 метраў у секунду.**

Бяда не абмінула ў самым старажытным горадзе краіны знакаміты Сафійскі сабор. У гэтым храме з цудоўным арганам было сарвана шмат бляшанага даху. Пасля ўдару стыхіі ўваход на тэрыторыю Верхняга замка перакрылі. Перакрыцці канструкцый закрылі поліэтыленавай плёнкай, запрацаваў кругласутачна штаб па ліквідацыі надзвычайнага здарэння. Намаганнямі многіх людзей стала магчымым ужо праз суткі адкрыць сабор са спісу гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі для правядзення экскурсій. Мясцовы будтрэст № 22 атрымаў заданне ў самыя сціслыя тэрміны, на працягу некалькіх тыдняў правесці замену ўсяго даху Сафійскага сабора і ўзмацніць вузлы драўляных канструкцый. Спецыялісты робяць усё неабходнае, каб гэтаму будынку цяперашняе надвор'е з частымі дажджамі нанесла як мага меней шкоды. На аднаўленчыя работы пойдзе каля 400 млн. рублёў. Адначасова пачалася праверка, якая павінна высветліць дапушчаныя адступленні ад праекта апошняй рэканструкцыі, бо пацярпелы дах тут замянілі толькі 2 гады назад. Зараз прымаюцца ўсе меры, каб важнейшы цэнтр Нацыянальнага музея-запаведніка, у якім толькі летам пабывала 40 тысяч турыстаў, болей так лёгка не станавіўся ахвярай моцных вятроў, якія пачасціліся і ў нашым рэгіёне.

# Аб самым надзённым

## Расія і Беларусь абмяркоўваюць аб'ёмы паставак нафты на 2012-2013 гады ва ўвязцы з рашэннем праблемы экспарту растваральнікаў




■ Марына Носава, БелаПАН.

**Расія і Беларусь абмяркоўваюць аб'ёмы паставак нафты на 2012-2013 гады ва ўвязцы з рашэннем праблемы экспарту беларускім бокам растваральнікаў, паведаміў РІА Навіны 26 кастрычніка ў Чарапаўцы віцэ-прэм'ер РФ Аркадзь Дварковіч.**

***«Прадмет перамоў - аб'ёмы паставак нафты ў гэтым і наступным годзе, якія ўмовы для гэтага павінны быць выкананы, у першую чаргу, якім чынам неабходна памяняць нарматыўную базу, каб не паўтараліся тыя праблемы, якія былі сёлета па пастаўках так званых растваральнікаў», - сказаў Дварковіч, адказваючы на пытанне пра ход перамоў з Беларуссю.***

"Прадмет перамоў - аб'ёмы паставак нафты ў гэтым і наступным годзе, якія ўмовы для гэтага павінны быць выкананы, у першую чаргу, якім чынам неабходна памяняць нарматыўную базу, каб не паўтараліся тыя праблемы, якія былі сёлета па пастаўках так званых растваральнікаў", - сказаў Дварковіч, адказваючы на пытанне пра ход перамоў з Беларуссю.

Расійскія афіцыйныя прадстаўнікі неаднаразова выяўлялі занепакоенасць той акалічнасцю, што Беларусь можа экспартаваць нафтапрадукты пад выглядам растваральнікаў і растваральнікаў з мэтай сыходу ад выплаты экспартных мыт у бюджэт РФ. У сярэдзіне верасня беларускі прэм'ер Міхась Мясніковіч абвясціў, што экспарт растваральнікаў з краіны цалкам спынены больш месяца назад, каб выключыць недавер з боку расійскіх партнёраў.

Беларусь у 2012 годзе бязмытна атрымлівае нафту і нафтапрадукты з Расіі. Пры гэтым яна пералічвае ў расійскі бюджэт 100% экспартных мыт на нафтапрадукты з расійскай сыравіны, якае пастаўляецца за межы Мытнага звяза. Растваральнікі і змазвальныя матэрыялы не занесены ў пералік нафтапрадуктаў, пры экспарце якіх выплачваецца вывазная мыта, тады як мыта на бензін складае 90% ад экспартнай мыты на нафту.

Расійскі бок лічыць, што Беларусь, павялічыўшы закупы расійскіх нафтапрадуктаў, экспартавала на еўрапейскія рынкі бензін пад выглядам растваральнікаў. Па неафіцыйных адзнаках, страты расійскага бюджэту з-за сумніўнага экспарту растваральнікаў з Беларусі ацэньваюцца па 2012 году ў 2 мільярда даляраў.

У кастрычніку чалец калегіі Еўразійскай эканамічнай камісіі Андрэй Сляпнёў пасля паседжання рады ЕЭК у Менску паведаміў, што Беларусь і Расія праводзяць дадатковыя кансультацыі па пытанні экспарту Беларуссю растваральнікаў. Ён удакладніў, што адпаведная рашэнні ЕЭК падрыхтавала, "а астатняе ставіцца да кампетэнцыі дзвюх краін".

Адным з найболей верагодных шляхоў канчатковага ўрэгулявання "растворительного" пытання лічацца ўводзіны экспартных мыт на растваральнікі, роўных мыце на нафтапрадукты (66% ад мыты на нафту) ці нават на бензін (90% ад мыты на нафту).

У канцы ліпеня ў Беларусі працавала міжведамасная расійская група прадстаўнікоў профільных дзяржструктур пад кіраўніцтвам ФТС, якая правярала лягальнасць вытворчасці і экспарту растваральнікаў з тэрыторыі Беларусі. Вынікам працы гэтай групы стала спыненне паставак у Беларусь нафты, якая з'яўляецца сырцом для вытворчасці растваральнікаў. Акрамя таго, "Транснефть" на падставе рашэння Мінэнерга перагледзела графік паставак нафты ў Беларусь у чацвёртым квартале ў бок зніжэння на 26%, ці на 1,3 мільёна тон нафты, да 4 мільёнаў тон.

Беларусь у студзеніжніўні 2012 года імпартавала 14,8 млн. тон волкай нафты, што на 12,3% больш, чым за восем месяцаў 2011 года. Сярэдні кошт расійскай нафты для Беларусі ў гэты перыяд склаў 407 даляраў за тону (мінус 14,3%).

### Надвор'е ў Глыбокім — www. rp5ru

| | Чацвер 01.11.12 | | | | Пятніца 02.11.12 | | | | Субота 03.11.12 | | | | Нядзеля 04.11.12 | | | | Пнд.05.11.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | -1 | +1 | +1 | +2 | +2 | +4 | +4 | +5 | +5 | +6 | +3 | +3 | +4 | +9 | +6 | +3 | +1 | +6 |
| Ціск | 749 | 749 | 748 | 746 | 745 | 742 | 742 | 740 | 740 | 740 | 742 | 742 | 743 | 739 | 738 | 739 | 742 | 743 | 744 |
| Вільготнасць | 97 | 96 | 96 | 92 | 90 | 89 | 93 | 94 | 95 | 93 | 93 | 95 | 93 | 90 | 88 | 88 | 85 | 88 | 77 |
| Вецер м/сек | 2 Ю-З | 4 Ю | 5 Ю-В | 7 Ю-В | 8 Ю-В | 10 Ю-В | 8 Ю-В | 6 Ю-В | 3 Ю | 2 С-З | 2 С-З | 3 Ю-З | 3 Ю | 8 Ю | 6 Ю-З | 6 Ю-З | 6 Ю-З | 6 Ю-З | 2 Ю-З |

## Дзень за днём

**З сярэдзіны верасня айчынныя банкі пачалі адчуваць вострыя дэфіцыт ліквіднасці і сталі абмяжоўваць выдачы крэдытаў вытворцам. Урад Беларусі дазволіў прыватызацыю любога прадпрыемства, калі ў яго з'явіцца інвестар па прымальнай цане пакупкі. Аднак рэпутацыю краіны значна пагоршыла рашэнне кіраўніка РБ зноў нацыяналізаваць кандытарскія фабрыкі "Спартак" і "Камунарку". Расія запатрабавала ад нас прадаваць ёй увесь выраблены бензін, беларусы пацерпяць страты на дзясяткі млн. $. У краіне вырашана ўзмацніць адказнасць нецвярозых вадзіцеляў, аж да канфіскацыі іх транспартных сродкаў за язду на падпітку. За адны толькі восеньскія выхадныя на айчынных дарогах загінула 9 пешаходаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя**. Па дадзеных ААН, колькасць уцекачоў ад вайны толькі ў Турцыі перавысіла 100 тысяч чалавек, ахвярамі канфлікту за паўтара года сталі больш 30 тысяч сірыйцаў.

**Турцыя.** Туркі пайшлі на абвастрэнне адносін з Расіяй, прымусова пасадзілі яе пасажырскі самалёт з грузам ваенных запчастак на борце для арміі рэжыма Башара Асада ў Сірыі.

**Францыя.** Прэзідэнт Франсуа Аланд заклікаў сірыйскага лідара Б. Асада пакінуць пасаду і мірна перадаць уладу, каб не пачалася грамадзянская вайна і не было новых вялікіх ахвяр.

**Расія.** Экспартны патэнцыял краіны вырас яшчэ на 55 млрд. кубаметраў газу пасля запуску ў эксплуатацыю 2-й чаргі падводнага газапровода "Паўночны паток".

**Ірландыя.** На дне мора геолагі знайшлі вялікія радовішчы нафты аб'ёмам 280 млн. тон "чорнага" золата, яго хопіць не толькі для ўласных патрэб, але і на экспарт за мяжу.

**Пакістан.** Шок у свецe выклікала нападзенне баевікоў-талібаў на 14-гадовую школьніцу, якая выступіла ў Інтэрнеце за свецкі лад жыцця і за правы дзяўчат на атрыманне адукацыі.

**Літва.** Тэлеканал TV-3 паведаміў, што ў самым цэнтры літоўскай сталіцы ў Вільнюсе шэраг шыкоўных кватэр і дамоў купілі прыбліжаныя да лідара РБ бізнесмены і чыноўнікі.

**Венесуэла.** Нованабраны зноў прэзідэнт Уга Чавес прызначыў пераемніка, віцэ-прэзідэнта Нікаласа Мандуру, 50-гадовага экскіроўцу аўтобуса, які не мае і вышэйшай адукацыі.

**Іспанія.** Парламент краіны прызнаў незаконным рашэнне ўлад Каталоніі аб правядзенні рэферэндума аб самавызначэнні гэтага аўтаномнага самага багатага іспанскага рэгіёна.

**Шатландыя.** Да канца 2014 года ўрад Англіі дазволіў рэгіёну правесці рэферэндум аб незалежнасці вострава і аб поўным выхадзе са складу Злучанага Каралеўства.

**Літва.** Акруговы суд Вільні даў статус палітычнага ўцекача збегламу беларускаму вайсковаму сяржанту-разведчыку Сцяпану Захарчанку, ён пакінуў часць летась летам.

**Чэхія.** Урад краіны перайменаваў галоўны аэрапорт сталіцы ў гонар памерлага летась былога прэзідэнта Вацлава Гавела, за гэта папрасілі больш за 80 тысяч жыхароў Прагі.

**Японія.** Кампанія Hitachi распрацавала тэхналогію, якая дазваляе захоўваць інфармацыю да 40 Мб на носьбіту 2 кв. см сотні мільёнаў гадоў, калі звычайны СД-дзіск толькі 200 гадоў.

**Аўстрыя.** Аўстрыйцу Феліксу Баумгартнеру ўдалося скокнуць з парашутам з вышыні больш 38 км з хуткасцю 1100 км у гадзіну, на рэкордны палёт ён затраціў каля 10 хвілін.

**Расія.** На 72-м годзе пайшоў з жыцця знакаміты сцэнарыст і драматург, сааўтар больш 50 фільмаў і серыялаў Эдуард Валадарскі, у ДТЗ у Маскве загінула актрыса Марына Голуб.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

***Жодзіна.*** Мясцовы аўтамабільны завод стаў упраўляючай кампаніяй 8-га па ліку ў Беларусі холдынга "БелАЗ-Холдынг", да яго далучыліся яшчэ 5 прадпрыемстваў галіны.

**Мінск.** Прэм'ер-міністр РБ М. Мясніковіч пацвердзіў, што Беларусь плануе стварыць уласную вытворчасць касмічных спадарожнікаў і зарабіць потым на іх продажы.

**Бабруйск.** Завод трактарных дэталей пачаў прадаваць калгасам трактары па бартару ў абмен на збожжа па дзяржрасцэнках, бо ў гаспадарак РБ зноў няма грошай на рахунках.

**Мінск.** Як і чакалася, А. Лукашэнка вітаў стварэнне новай "цэнтрысцкай" партыі "Белая Русь" тыпу "Адзінай Расіі" і паабяцаў падтрымліваць яе членаў -"патрыётаў".

**Брэст.** Паблізу польскай граніцы ў 1 гадзіну ночы быў затрыманы жыхар Каіра, які не меў нават беларускай візы і пад відам рыбака хацеў нелягальна перабрацца ў Польшчу.

**Мінск.** Больш 100 млн. рублёў урону нанесла сталічнаму МТЗ група з чатырох яго работнікаў, якая выкрадала камплектуючыя да трактараў, таемна вывозіла на продаж.

**Гродна.** Два 18-гадовыя хуліганы – студэнт і слесар пойдуць пад суд за тое, што збілі гараджаніна, які не даў ім пакатацца на сваёй машыне і быццам яшчэ нагрубіў.

**Магілёў.** Пад раніцу на тэрыторыі філіяла аўтапарка № 1 на пляцоўцы захоўвання тэхнікі згарэлі адразу 9 аўтобусаў беларускай вытворчасці з 52 адзінак тэхнікі для перавозак.

**Мінск.** Прэзідэнцкая Адміністрацыя даручыла ўраду РБ забяспечыць працаўладкаванне 89 дэпутатаў, у якіх скончыўся тэрмін паўнамоцтваў у Палаце прадстаўнікоў 4-га склікання.

**Мазыр.** З цяжкімі траўмамі трапіў у райбальніцу 36-гадовы пешаход, якога вечарам двойчы збілі на адной з вуліц іншамаркі, адзін з вадзіцеляў уцёк з месца здарэння.

**Брэст.** Генерал-маёр У. Сычэўскі перастаў камандаваць міліцыяй вобласці і паехаў начальнікам Гродзенскага АУУС, яшчэ ў двух абласцях Беларусі памянялі так генералаў.

**Мінск.** А. Лукашэнка прызнаўся, што яго пазашлюбны любімец Коля мае дрэнны характар, як і ў бацькі ў маладосці, і раўнуе свайго тату да старэйшых братоў.

**Нясвіж.** Пасля рэстаўрацыі мясцовы палаца-паркавы музей-запаведнік выйшаў на поўную самаакупнасць дзейнасці, менеў за паўгода зарабіў 8,5 млрд. рублёў даходаў.

**Гродна.** Першымі ў Беларусі адразу на 8-мі вуліцах абласнога цэнтра ўстанавілі дарожныя катафоты для бяспекі пешаходаў і лямпы-датчыкі руху, каб было меней аварый.

**Беразіно.** У рацэ Беразіне знайшлі цела 34-гадовага жыхара райцэнтра, яго вечарам у свaім доме забіў тапаром падчас спрэчкі на падпітку 27-гадовы брат і выкінуў у ваду.

**Будслаў.** Копія славутага абраза Маці Божай – заступніцы Беларусі пачала пілігрымку па каталіцкіх парафіях краіны і вернецца праз 9 месяцаў на штогадовы фэст у храм 5 ліпеня.

# Малако даражэе на 35%, хлеб — на 10%



■ TUT.BY

**Каб вярнуць на прылаўкі нізкатлустую малочную прадукцыю, цэны дазволілі падняць на 35%.**

**Нізкатлустыя віды малочных прадуктаў і прадукты без дадаткаў і напаўняльнікаў усё радзей з'яўляліся на прылаўках беларускіх крамаў. Мінэканомікі канстатавала, што іх вытворчасць практычна спынілася ў сувязі са стратнасцю. Каб вярнуць прадукцыю на прылаўкі, міністэрства дазволіла павысіць гранічныя максімальныя адпускныя цэны на 35%. Вырасце ў цане і хлеб.**

Рост цэнаў на 35% чакае малако і кефір тлустасцю да 3,5%, смятану тлустасцю да 25%, тварог тлустасцю да 9% без смакавых дадаткаў і напаўняльнікаў.

Як паведамляецца ў прэсрэлізе міністэрства, гэта павінна скараціць розніцу ва ўзроўні цэнаў на розныя малочныя прадукты і зацікавіць вытворцаў у павелічэнні выпуску нізкатлустай прадукцыі. Пастанова Мінэканомікі № 86 уступае ў сілу 27 кастрычніка.

Менш сур'ёзнае падаражанне чакае іншыя віды малочнай прадукцыі.

Пастановай Мінэканомікі вытворцам у кастрычніку дазволена падвысіць адпускныя цэны на высокатлустыя віды малака, кефіру, смятаны, тварагу, а таксама на аналагічныя малочныя прадукты са смакавымі дадаткамі і напаўняльнікамі на 4%.

За цэны на тлустую «малочку» Мінэканомікі ўзялося ў красавіку гэтага года. Тады было прынятае рашэнне пра неперавышэнне малакаперапрацоўчымі арганізацыямі на названыя прадукты ўзроўню адпускных цэнаў, усталяваных па стане на 29 красавіка 2012 года. У жніўні і верасні вытворцам дазволілі падвысіць адпускныя цэны на 4% у месяц.

Акрамя таго Мінэканомікі павышае на 10% гранічныя максімальныя адпускныя цэны на сацыяльна значныя віды хлеба і батона. Матывы тыя ж: кампенсацыя падаражання збожжавай сыравіны, скарачэнне стратнасці вытворчасці і насычэнне спажывецкага рынку. Іншыя віды хлебабулачнай прадукцыі вырастуць у цане на 3%.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Для перааснашчэння падраздзяленняў МНС вобласці будзе закуплена яшчэ 14 сучасных пажарных машын, 35 дыхальных апаратаў, 22 камплекты новых радыёстанцый.

**Наваполацк.** У выніку абрушэння і падзення 18-метровых будаўнічых лясоў унутры ўзводзімага рэзервуару ААТ "Нафтан" загінуў 45-гадовы рабочы, напарнік быў ранены.

**Гарадок.** Суд раёна прызначыў прымусовае лячэнне ад алкагалізму апроч 1 года турмы мясцоваму жыхару за браканьерства на возеры Мехаўскае і канфіскаваў яшчэ 5 сетак.

**Лёзна.** Днём на чыгуначным пераездзе вадзіцель іншамаркі паехаў на чырвоны сігнал і сутыкнуўся з цягніком, уцёк з пасажырамі, але адзін з іх затым трапіў у бальніцу.

**Верхнядзвінск.** Пагранічнікі з міліцыяй затрымалі траіх маладых хлопцаў, якія здабылі і везлі на аўто на продаж 70 кг каноплі, яе можна выкарыстоўваць для вырабу наркотыкаў.

**Глыбокае.** Напярэдадні ацяпляльнага сезона ў чарзе на атрыманне паліва (дроў і торфабрыкету) былі больш 2,5 тысяч жыхароў раёна, з іх 909 хацелі набыць толькі дровы.

**Віцебск.** З 470 жыхароў вобласці, якія вярнуліся дамоў па амністыі, 22 ужо паспелі адразу здзейсніць новыя злачынствы, 47 адмовіліся ад працаўладкавання, сталі піць, красці.

**Паставы.** Міліцыі не ўдалося знайсці групу маладых вандалаў, якія ноччу ў гарпарку паламалі шэраг альтанак, драўляных казачных скульптур, пашкодзілі пляж на возеры.

**Докшыцы.** У гонар святога лекара Панцеляймона будзе асвечана новапабудаваная царква ў вёсцы Парафьянава, вакол храма ўжо добраўпарадкавалі тэрыторыю, акружылі агароджай.

**Чашнікі.** З-за кароткага замыкання старога халадзільніка загарэлася кватэра пенсіянеркі на 5-м паверсе жылога дома, прыйшлося эвакуіраваць суседзяў, саму пацярпелую змясціць у бальніцу.

**Віцебск.** Былога палітвязня за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга Сяргея Каваленку паставілі на 2 гады на прафілактычны ўлік у міліцыі, ён павінен там адзначацца рэгулярна.

**Докшыцы.** Каля 9 гадзін вечара на адной з вуліц пасёлка Крулеўшчызна вадзіцель аўто Глыбоцкага камбікормавага завода наехаў на ляжачага на дарозе пешахода, які ад атрыманых траўмаў загінуў.

**Наваполацк.** У аўтапарку № 6 сталі завозіць на працу вадзіцеляў вахтавым метадам, не хапае ўжо 50 кіроўцаў аўтобусаў, хоць іх заробкі перавышаюць 5 млн. рублёў у месяц.

**Полацк.** Моцны ўраганны вецер парывамі да 28 метраў у секунду моцна пашкодзіў Сафійскі сабор, у храме было сарвана 300 квадратных метраў даху, абясточаны сам горад.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Адпусты на Дні "Апекі" Маці Божай Вастрабрамскай

*абдубуцца 7–16 лістапада 2012 года ў Мосары пад дэвізам: "Вера і Міласэрнасць – дар і заданне".*

**Маці Міласэрнасці з Вострай Брамы ў Вільні ўшаноўваецца ўсімі хрысціянамі як заступніца Беларусі і Літвы. На землях даўняй Віленшчыны яе абраз знаходзіцца ў шматлікіх святынях, як каталіцкіх, так і праваслаўных, а таксама ў дамах вернікаў.**

Жыхары парафіі і вернікі з навакoлля асаблівым чынам ушаноўваюць Божую Маці з Вострай брамы і ружанцовая малітва каля капліцаў у кастрычніку была добрай духоўнай практыкай і натхненнем для перажыцця штогадовых "Дзён апекі Маці Божай".

Як у Вільні, так і ў Мосары, у капліцы Маці Міласэрнасці, штогод праходзяць дні "Апекі" Маці Божай і малітва Навэнны. У гэтым годзе дні "Апекі" пройдуць на тэму: "Вера і Міласэрнасць – дар і заданне" з 7 па 16 лістапада.

Штодзённа ў 9 гадзін будзем дзякаваць Маці Вастрабрамскай за шматвекавую апеку жыхароў нашых земляў у часы войнаў, эпідэмій хваробаў і іншых навалаў, спяваючы Гадзінкі. У гадзіну міласэрнасці (ў 15:00) будзем маліцца на ружанцы каля капліцаў, малітвы навэнны і літанію да Маці Божай Міласэрнасці, а ў 17 гадзін перад абразом Божай Маці будзем збірацца на Святую Літургію з навукай на тэмы веры і міласэрнасці.

У нядзелю, 11 лістапада, і 16 лістапада, у пятніцу, Маці Міласэрнасці зберыць нас на Урачыстую Еўхарыстыю – падзяку за нябесную апеку – у 13 гадзін. Раніцай будзем спяваць Гадзінкі, а ў 11 гадзін маліцца на ружанцы.

Святкаванне і ўшанаванне "Апекі" Маці Божай і ўрачыстая Святая Імша пры адкрытым вакне капліцы адбудзецца таксама і ў суботу ў 13 гадзін.

Міласэрная Маці ахінае нас Сваёй апекай і ўзрадуецца нашай удзячнасці, калі мы ўзнясём малітву падзякі!

Маці Божая ўсіх чакае ў Мосары!

Падрабязная інфармацыя на сайце:

http://mosar.vickyblog.com

***Ксёндз Аляксей Юркайць, адміністратар парафіі Мосар.***
Вул. Цэнтральная (касцёл).
211807 в. Мосар п/а Мосар
Глыбоцкі раён, Віцебская вобласць.
+ 375-33-676-1000.
E-mail: Mosarterra@gmail.com
Skype:Alexius230





Каталіцкі абраз Маці Божай Вастрабрамскай.





Праваслаўны абраз Маці Божай Вастрабрамскай.

# Вандалы запэцкалі помнік, пастаўлены на месцы спаленай нацыстамі вёскі



Фота Кастуся Шыталя, 27.10.2012

■ **Кастусь Шыталь**

**Невядомыя асобы запэцкалі белым рэчывам помнік жыхарам вёскі Азарцы (Докшыцкі раён), якіх нацысты спалілі разам з вёскай у 1943 годзе.**

Акт вандалізму быў здзейснены не пазней за 19 кастрычніка. Дагэтуль помнік не адмылі.

Помнік жыхарам Азарцаў - выява жанчыны, якая ў жалобе прытуляе да сябе дзіця. Ён стаіць пры дарозе Докшыцы – Параф'янава, дзе сама раней з пачатку XVII стагоддзя была вёска.

У 1943 годзе аддзел СС, які накіроўваўся з чыгуначнай станцыі Параф'янава ў Докшыцы, спаліў вёску Азарцы разам з жыхарамі. У агні загінулі некалькі дзясяткаў чалавек – і малых, і старых. Падставай для злачынства была знаходка міны, якую партызаны ўсталявалі на дарозе каля вёскі.

Пасля вайны вёска Азарцы не аднавілася.

**У Беларусі з 1 лістапада павялічацца кошты на некаторыя маркі вырабляных у рэспубліцы і імпартных цыгарэт у сярэднім на 1,9-13%. Пра гэта паведамілі карэспандэнту БелТА ў Міністэрстве па падатках і зборах.**

## Кошты на цыгарэты ў Беларусі з 1 лістапада павялічацца

На цыгарэты вытворчасці ААТ «Гарадзенская тытунёвая фабрыка «Нёман» маркі Cooper кошты павялічваюцца з Br5,2 тыс. да Br5,3 тыс. за пачак, Lucky Strike - з Br8,5 тыс. да Br9 тыс., Kent - з Br10 тыс. да Br10,5 тыс., Winston - з Br8,7 тыс. да Br9,2 тыс., Pall Mall і Monte Carlo - з Br6,2 тыс. да Br7 тыс.

Кошты на некаторыя тытунёвыя вырабы ТАА «Тытуньінвест» таксама павялічацца, да прыкладу, на Camel - з Br9 тыс. да Br9,5 тыс., Winston - з Br8,5 тыс. да 9 тыс.

На імпартныя цыгарэты Richmond з 1 лістапада ўсталёўваюцца кошты Br18 тыс. за пачак, на 1 кастрычніка яны каштавалі Br17,2 тыс.

*БелТА*

## Бюджэт пражытачнага мінімуму будзе павышаны да 880 тыс. рублёў

Пастановай Савета Міністраў зацверджаны бюджэт пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва і па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах у цэнах верасня 2012 года ў разліку на адзін месяц. Перыяд дзеяння гэтых сацыяльных нарматываў - з 1 лістапада 2012 года па 31 студзеня 2013 года.

Бюджэт пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва з лістапада складзе Br880 тыс. 30.

Новы БПМ павышаны на 4,3% да нарматыву, які дзейнічае з 1 жніўня па 31 кастрычніка (843 тыс. 870 рублёў).

Для працаздольнага насельніцтва БПМ устаноўлены памерам Br963 тыс. 130, для пенсіянераў - Br727 тыс. 250, для дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў - Br749 тыс. 950, для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў - Br916 тыс. 310, для дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў - Br994 тыс. 850, для дзяцей-студэнтаў - Br884 тыс. 100 рублёў.

*БелТА.*

## Беларуская чыгунка ўводзіць вагоны, дзе можна курыць.

**Эксперымент стартаваў 16 кастрычніка ў цягніку Магілёў - Мінск.**

**З 5 лістапада вагоны для тых, хто курыць, а таксама для тых, хто не курыць, з'явяцца ў цягніках «Гомель — Мінск» і «Віцебск — Мінск».**

Білеты на гэтыя цягнікі ўжо прадаюцца з улікам новага парадку. Там пазначаныя месцы «для тых, хто курыць» і «для тых, хто не курыць».

Нагадаем, што дагэтуль у пасажырскіх цягніках было дазволена курыць ў спецыяльна адведзеных для гэтага месцах — тамбурах з супрацьлеглага ад уваходу ў вагон боку.

*Еўрарадыё*

## Высеклі дрэвы ўздоўж дарог, цяпер ставяць снегаабарончыя шчыты

**На дарогах Гродзенскай вобласці плануецца ўстанавіць да зімы 38 км снегаабарончых шчытоў.**

Да зімы плануецца вырабіць 19 тысяч шчытоў, якія будуць устаноўлены ўздоўж участкаў дарогі, не абароненых ад прадзімання.

З іх больш за 12 тысяч вырабляюць прадпрыемствы папраўчых устаноў. На сёння гатова 65% шчытоў.

*Паводле БелТА.*

# Вянчанне маладых па ўніяцкім абрадзе ў Мёрах



Фота Дзяніса Раманюка.

**Адзін з лідараў Маладога Фронту Мікола Дземідзенка пабраўся шлюбам з прыгажуняй-мастацтвазнаўцай Алесяй Раманюк.**

Алеся — дачка вядомага творцы, збіральніка мастацтва, этнографа Міхася Раманюка.

Вянчанне маладых адбылося па ўніяцкім абрадзе ў Мёрах, адкуль родам Мікола Дземідзенка. Нягледзячы на тое, што перад вяселлем спецслужбісты ціснулі на мясцовую кавярню, дзе пасля вянчання мусіць адбыцца святкаванне, ды паставілі на ўездзе ў Мёры пасты ДАІ, свята прайшло без эксцэсаў.

*Ладу й шчасця маладым!*



**Кліменцій Кожан,**
*м. Германавічы.*

# Зоська Верас

## *Да 120-годдзя з дня нараджэння*

**Працяг.**
*Пачатак у №42 (654) ад 18.10.2012*

У 1928 годзе было арганізавана беларускае кааператыўнае пчалярскае таварыства “Пчала”. Зоська Верас стала яго старшынёй. У 1934 годзе таварыства “Пчала” пачало выдаваць свой часопіс “Беларуская борць” пад рэдакцыяй Людвікі Войцік. У жніўні 1934 года выйшаў першы нумар часопіса. Гэта была знамянальная падзея не толькі ў гісторыі пчалярскай журналістыкі нашага краю, але і наогул у гісторыі пчалярства Беларусі. Першыя пяць нумароў, адбітыя на шапірографе, мелі сціплы выгляд: 8 невялікіх старонак, невыразны, цьмяны тэкст. Але часопіс быў прыхільна сустрэты чытачамі. З першых нумароў часопіс разглядаў важныя арганізацыйныя пытанні, асвятляў найбольш вострыя праблемы тэарэтычнага і практычнага пчалярства. Часопіс бачыў сваю задачу ва ўкараненні ў пчалярства краю навуковага пачатку, заснаванага на веданні біялогіі пчол і іх натуральных патрэб. Матэрыялы часопіса вызначаліся мэтанакіраванасцю, тэматычнай актуальнасцю, яснасцю думкі, даступнасцю зместу.

З 1935 года “Беларуская борць” пачала выдавацца друкарскім спосабам. Яе аб’ём павялічыўся да 28 старонак. Выданне кожнага нумара знаходзілася пад пагрозай зрыву. Вось што адказвала Зоська Верас у “Паштовай скрынцы” свайму чытачу: “Наш часопіс ніякай дапамогі ніадкуль не атрымоўвае, абапіраецца толькі на падпіску, калі яна перарвецца, “Борць” існаваць не зможа. Усе супрацоўнікі рэдакцыі і адміністрацыі працуюць на грамадскіх пачатках, але друк і паперу трэба аплачваць”.

У часопісе друкаваліся цікавыя артыкулы па агародніцтве, садоўніцтве і пчалярстве жыхара з-пад Шкунцікаў Васіля Уладзіміравіча Рабізы. У “Беларускай борці” часта з’яўляліся артыкулы Зоські Верас. Яна вяла таксама пошту чытачоў, адказвала на іх пытанні. Таварыства “Пчала” ўстанавіла кантакты з украінскімі і польскімі пчалярамі, абмен матэрыяламі, пчалярскім вопытам.

Пяць гадоў у цяжкіх палітычных і фінансавых умовах выдавалася “Беларуская борць”. Выхад кожнага нумара ўспрымаўся як вялікая падзея. Але “матэрыяльнае становішча “Беларускай борці” не паляпшалася, - успамінала Зоська Верас. – У маі 1939 года мы выдалі апошні нумар . З вялікім сумам расставаліся з нашым выпеставаным часопісам, бо на далейшае ўжо не хапала сілы”. Але і тое, што было зроблена, не загінула марна.




**Вольга Іпатава, Сяргей Панізьнік, Зоська Верас, Галіна Войцік, Віталь Скалабан, Уладзімер Содаль. 1982 г.**

Самаахвярную дзейнасць Зоські Верас у гэтай галіне матэрыяльнай культуры будуць успамінаць нашчадкі.

Цікавай была падрыхтаваная Зоськай Верас кніга “Мядовыя расліны”. У кнізе быў беларуска-польска-ўкраінска-расійска-лацінскі слоўнік мядовых раслін. Даны дэтальныя апісанні кожнай расліны. У канцы кнігі былі аддзелы раслін: прамыслова-мядовыя, садова-мядовыя і г.д. У часопісе “Студэнцкая думка” выказвалася пажаданне, каб хутчэй знайшліся выдаўцы на гэтую важную кнігу. Але выдаўцы не знайшліся. Рукапіс кнігі недзе загінуў.

З 1926 года Зоська Верас і Станіслаў Станкевіч выдавалі штогод беларускі адрыўны каляндар, дзе сяляне маглі прачытаць гаспадарчыя парады, цікавыя весткі з розных галін жыцця, жарты. Праз гэтыя календары роднае слова трапляла ў кожную сялянскую хату.

Апошнія гады перад Другой сусветнай вайной былі вельмі цяжкія для беларускага руху. Амаль усе беларускія арганізацыі былі закрытыя. Віленская беларуская гімназія стала філіяй польскай гімназіі. Работы не было. Людвіка і Антон Войцікі прадалі сваю хату ў Чыгуначнай Калоніі і купілі гектар зямлі ў Ніжніх Панарах. Дзялянка была ў лесе. Тут Антон Войцік пабудаваў глінабітную хату, пасадзіў сад.

17 верасня 1939 года ў Вільню ўвайшла Чырвоная Армія. Пачаліся арышты. Сярод беларускіх дзеячаў былі арыштаваныя А. Луцкевіч, У. Самойла, В. Багдановіч, Ф. Ярэміч і іншыя. Беларускае грамадскае жыццё замерла. Пасля передачы Вільні і Віленскага краю буржуазнай Літве працавала толькі беларуская прагімназія, дырэктарам якой быў ксёндз Адам Станкевіч, а ў Савецкай Літве – М. Анцукевіч.

Падчас нямецкай акупацыі беларускае жыццё крыху ажывілася: працавала Віленская беларуская гімназія, Беларускі нацыянальны камітэт, выдавалася газета.

У 1945 годзе беларускае жыццё ў Вільні нанова замёрла. Людвіка Войцік займалася садам, агародам, гадавала лекарскія расліны.

У 1948 годзе раптоўна памёр муж Зоські Верас Антон Войцік. Пачаліся найгоршыя гады ў жыцці Людвікі Войцік – гады самоты, ізаляванасці ад людзей, тугі па сыне, які быў вывезены з Вільні. У 1956 годзе сын Зоські Верас Антон Шантыр нечакана вярнуўся дамоў са сталінскіх лагераў. Дзесяць гадоў ён не меў права перапісвацца з маці.

У 1961 годзе пачаўся новы перыяд у жыцці Зоські Верас. Па яе словах, яе “адкрыў” аспірант з Мінска Арсень Ліс, які ў віленскіх архівах збіраў матэрыялы да сваёй дысертацыі. Ён часта наведваў “Лясную хатку” на Панарах, дзе жыла Зоська Верас. Пісьменніца гаварыла, што Арсень Ліс абудзіў яе з летаргічнага сну. Агарод, гаспадарка, унук не маглі задаволіць чалавека, які шмат ведаў, прывык займацца разумовай працай. Са з’яўленнем Арсеня Ліса, а пасля іншых беларускіх літаратараў, асабліва моладзі, якая ахвотна наведвала “Лясную хатку”, жыццё Зоські Верас перамянілася. У госці да пісьменніцы сталі прыязджаць пісьменнікі, мастакі, вучоныя, студэнты, школьнікі – усе, каму была дарагая беларуская мова, літаратура, гісторыя. Зоська Верас дрэнна чула, і таму госці на паперы пісалі ёй свае пытанні.



**Зоська Верас, Аляксей Пяткевіч і Генадзь Каханоўскі.**

Яна была незвычайна дасведчаным чалавекам, валодала фенаменальнай памяццю, захавала ў сваёй памяці шмат імён, фактаў, падзей, дат з бурлівага беларускага жыцця першай паловы XX стагоддзя. Расказвала Зоська Верас свабодна, вобразна, са шматлікімі дэталямі.

Многія пачалі пісаць ёй, прасіць парады. Уладзімір Караткевіч цікавіўся “Батанічным слоўнікам”. Назвы раслін былі яму патрэбныя для яго твораў. Гісторык Генадзь Каханоўскі зацікавіўся постаццю прадзеда Людвікі Антонаўны Ігната Кулакоўскага (1800-1870), які яшчэ ў 1834 годзе ў пісьме на імя расійскага міністра асветы пісаў пра неабходнаць даць беларускаму народу адукацыю “с учётом национальной самобытности сдешних людей”. Зоська Верас захавала дыплом аб выбранні даследчыка беларускіх старажытнасцяў і педагога Ігната Кулакоўскага сябрам Навуковага таварыства ў Даніі. Ён быў таксама сябрам Навуковых таварystваў у Вільні, Варшаве, Пецярбургу.

Вучні з Гудзевічаў Мастоўскага раёна прасілі дапамагчы стварыць у школьным музеі куток лекарскіх зёлак.

Многія з гасцей прасілі расказаць пра Максіма Багдановіча. Зоська Верас заставалася адзіным чалавекам, які асабіста ведаў паэта. Пыталіся пра З. Бядулю, Ядвігіна Ш. Г. Леўчыка. Верас падрабязна адказвала на пытанні, паказваючы архіўныя матэрыялы, лісты Івана Луцкевіча, Аляксандра Уласава, Вацлава Ластоўскага, Фабіяна Шантыра, дарэвалюцыйныя выданні кніг, кнігі міжваеннага часу, часопісы, фотаздымкі. “Для пашырэння ведаў пра беларускі адраджэнскі рух, для абуджэння нацыянальнай свядомасці яна не шкадавала ні сіл, ні часу”, - пісала дачка Зоські Верас Галіна Войцік.

У “Лясной хатцы” Зоські Верас пабывалі пісьменнікі У. Караткевіч, Я. Пархута, Р. Барадулін, К. Цвірка, Д. Бічэль-Загнетава, А. Бачыла, мастакі А. Марачкін, В. Маркавец, Я. Кулік, М. Купава, В. Целеш, вучоныя - літаратуразнаўцы А. Мальдзіс, Я. Саламевіч, Г. Кісялёў, В. Скалабан і іншыя.

Сваіх гасцей Зоська Верас сустракала ветліва. Летам гутарыла з імі каля стала пад сасной, увосень і зімой у сваім пакойчыку, дзе захоўвала свае архівы, якія прыцягвалі ўвагу даследчыкаў. Гасцей уражвалі яе маладыя вочы, цёмныя валасы, уменне гаварыць і, асабліва, фенаменальная памяць.

Пісьменніца працавала над успамінамі пра выдатных дзеячаў беларускай літаратуры і культуры.

Зоська Верас цікавілася сучаснай беларускай літаратурай. Яе бібліятэка папаўнялася новымі кнігамі беларускіх пісьменнікаў і паэтаў.

У 70-80-х гадах XX стагоддзя Зоська Верас шмат пісала. Яе ўспаміны друкаваліся ў розных часопісах і газетах Беларусі. Сярод іх “Гродзенскі гурток беларускай моладзі” (часопіс “Маладосць”), “У гасцях у Г. Леўчыка” (“Ніва”) і іншыя.

Зоська Верас атрымлівала лісты ад старых сяброў і знаёмых: ад Ванды Лявіцкай, Паўліны Мядзёлкі, ад Баляслава Грабінскага з Амерыкі, Вітаўта Тумаша. Пісалі Зосьцы Верас і зусім незнаёмыя людзі.

Цікавыя лісты атрымлівалі ад Зоські Верас члены літаратурнага гуртка Германавіцкай сярэдняй школы і яго кіраўніца ў той час настаўніца беларускай мовы і літаратуры Валянціна Фёдараўна Лагунёнак. Зоська Верас пісала Васілю Уладзіміравічу Рабізу з вёскі Шкунцікі Шаркоўшчынскага раёна, які дасылаў у “Беларускую борць” свае артыкулы па садоўніцтву і пчалярству.

Звычайна Зоська Верас атрымлівала за тры месяцы да 100 лістоў, а аднойчы іх прыйшло 170. За год іх прыходзіла 600-700. Ніводны ліст не заставаўся без адказу. Аднак не заўсёды Зоська Верас паспявала своечасова адказваць на лісты. 10-12 чалавек чакалі адказу. У сваіх лістах яна давала людзям парады, кансультацыі, шчодра дзялілася сваімі багатымі ведамі з усімі, хто прыязджаў да яе.

Першым памочнікам Зоські Верас быў яе зяць Лявон Луцкевіч. Ён перадрукоўваў для яе рукапісы, абнаўляў старыя фотаздымкі, прыводзіў і адводзіў гасцей, дапамагаў у падборцы матэрыялаў.

У 1982 годзе, за 4 месяцы да свайго 90-годдзя, Зоська Верас была прынятая ў Саюз пісьменнікаў СССР. У прывітальным адрасе Саюза пісьменнікаў адзначаліся яе незвычайная грамадская актыўнасць на працягу ўсяго жыцця і вялікая заслуга для беларускага адраджэнскага руху. Паэт Сяргей Панізнік, які прысутнічаў на юбілеі, і якому было даручана перадаць старэйшай беларускай пісьменніцы прывітальны адрас Саюза пісьменнікаў, пазней пісаў: “… у апошнія гады пра пісьменніцу Зоську Верас мы даведваемся ўсё больш і больш”. Ён адзначыў “яе нястомную і бескарысную дапамогу ўсім тым, хто вывучае нашу літаратуру, культуру”, “унікальны архіў” і “выключную памяць”. “Можа здацца дзіўным, - пісала Галіна Войцік, - што Саюз пісьменнікаў “адкрыў” для сябе Зоську верас толькі ў год яе 90-годдзя. Так і хочацца запытацца словамі Янкі Купалы: “А што ж дагэтуль Вы рабілі? А дзе ж дагэтуль Вы былі?”

Як пісала Галіна Войцік, “многа ініцыятывы, настойлівасці і клопату ў справе надання Зосьцы Верас афіцыйнага пісьменніцкага статусу праявілі некаторыя сябры па пяру. З вялікай ахвотай далі ёй рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў У.Караткевіч, А. Мальдзіс, А. Ліс. Многа парупіўся, каб выпаўніць усе фармальнасці і пераадолець усе бюракратычныя бар’еры, Генадзь Каханоўскі, шчыра падтрымліваў гэтую справу і Ніл Гілевіч.”

***Працяг будзе.***

# Каб не было канфліктаў паміж рыбаловамі і арандатарамі

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Перад наступленнем лёдаставу ў рыбаловаў-аматараў ізноў сталі ўзнікаць пытанні з нагоды арэнды вадаёмаў і збірання платы за аматарскае рыбалоўства на арандаваных вадаёмах. Глыбоцкая міжраённая інспекцыя чарговы раз паведамляе пра ўсе арандаваныя вадаёмы раёна, на якіх арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства, бо шматлікія рыбаловы карыстаюцца чуткамі пра вынятак азёр і пры выдачы арандатарамі пуцёвак узнікаюць канфліктныя сітуацыі.

На тэрыторыі Глыбоцкага раёна платнае аматарскае рыбалоўства арганізавана на наступных вадаёмах: Карпінскае, Бярозаўскае – арандатар фермерская гаспадарка «Карпікі», возера Крывое – арандатар ТАА «Сервік» (в. Бабруйшчына), возера Чачалі – арандатар ПП «Аграбізнескансалт», возера Свядава – арандатар СФГ «Свідава», азёры Гулідаўскае – арандатар ТАА «Старт» Мінскага раёна, возера Падавута – арандатар СФГ «Падавуты» вадасховішча «Азерцы» – арандатар Дзяржаўнае прадпрыемства «Азерцы», выкарыстанне плаўсродкаў на вадасховішчы забаронена.

На ўказаных вадаёмах рыбаловам-аматарам, усім без выключэння, у тым ліку і мясцовым жыхарам, неабходна набываць пуцёўку на платнае аматарскае рыбалоўства, для мясцовых – бясплатныя пуцёўкі. У выпадку адсутнасці пуцёўкі або адмовы рыбалова набываць пуцёўку ў арандатара вадаёма, дзеянні грамадзян разглядаюцца як адміністрацыйнае правапарушэнне, прадугледжанае ч.1 арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні», г.зн., здабыча рыбы без належнага на тое дазволу (пуцёўкі на платнае аматарскае рыбалоўства). Такім чынам, дзеянні ўпаўнаважаных асобаў арандатараў рыбалоўных угоддзяў прызнаюцца законнымі і абавязковымі да выканання рыбаловамі, таму просім быць узаемна ветлівымі і выконваць Правілы рыбалоўства.

Набыць пуцёўкі можна: возера Чачалі, база адпачынку «Чачалі» – кругласутачна, азёры Карпінскае і Бярозаўскае – пры асабістым абыходзе арандатара вадаёмаў, возера Крывое, на базе адпачынку – кругласутачна, возера Свядава – пост аховы з боку аўтатрасы Глыбокае-Полацк, вадасховішча «Азерцы», азёры Гулідаўскае, возера Падавута – пры абыходзе прадстаўнікамі арандатараў. Указанымі вышэй арандатарамі рыбалоўных угоддзяў выканаты неабходны пералік патрабаванняў для арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства, аднак з боку супрацоўнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі і іншых кантралявальных органаў патрабавання да аказваемага пераліку паслуг арандатарамі будзе жорсткім, бо неабходна развіваць сферу паслуг з боку арандатараў. Сёлета зарыбленне вадаёмаў праведзена на возеры Чачалі – карп, азёры Карпінскае і Бярозаўскае – карась, белы амур, таўсталобік. Астатнія арандатары будуць праводзіць зарыбленне ў кастрычніку - лістападзе 2012 года – шчупак, карась, карп, сом, судак.

Па пытаннях арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжрайінспекцыі па ўказаных ніжэй тэлефонах. Глыбоцкая міжрайінспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку грамадзянам за аказваемую дапамогу ў захаванні нашых прыродных багаццяў.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70 «гарачая лінія», маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Актывізуюцца незаконныя нарыхтоўшчыкі драўніны

**А.Г. Абрамчык,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Супрацоўнікамі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь першараднае значэнне надаецца ахове прыродных рэсурсаў нашай краіны. Штотыдзень дзяржінспектарамі на тэрыторыі краіны спыняюцца сотні розных парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.**

Так, у перыяд часу з 22 па 28 кастрычніка 2012 г супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету выяўлена 7 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

Напрыклад, 23 кастрычніка супрацоўнікамі міжрайінспекцыі затрыманыя трое грамадзян, якія ў лясным масіве паблізу в. Старыя Шунеўцы Глыбоцкага раёна пры разробліванні тушы каня выкінулі рэшткі вантроб, канечнасцяў. На парушальнікаў складзены адміністрацыйныя пратаколы і накладзены штрафы.

24 кастрычніка інспектарамі затрыманы жыхар г.п. Падсвілле грамадзянін Н, які нічога лепш не прыдумаў, як памыць свой аўтамабіль прама на беразе возера Алойсберг, на адлегласці 5 метраў ад вады. Накладзены штраф мог акупіць мыццё машыны на афіцыйнай мыйцы не адзін раз.

З наступам восені актывізуюцца незаконныя нарыхтоўшчыкі драўніны. 25 кастрычніка 2012 года інспектарамі паблізу в. Варанова Глыбоцкага раёна затрыманы жыхар г. Глыбокае грамадзянін П. , які, не маючы дазваленчых дакументаў на высечку дрэў, самавольна правёў высечку больш 200 дрэў алешыны шэрай. Парушальнік прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці з накрыццём шкоды нанесенага прыродзе, больш 1 млн. рублёў.

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян выконваць прыродаахоўнае заканадаўства. Пра ўсе парушэнні Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 2-86-70 «кругласутачна», маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# ВОСЕНЬ – ГЭТА ТУМАНЫ, ДАЖДЖЫ І ГАЛАЛЁДЫ!

**Завадскі А.І.,**
*часовы выканаўца начальніка АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

**Дадайце да гэтага мокрую праезную частку, калі каэфіцыент счаплення колаў з дарогай значна змяншаецца. Зразумела, што для кіроўцаў наступіў час дадатковых небяспек на дарогах. Не выпадкова лістапад і снежань лічацца самымі аварыйнымі месяцамі года. Пераважнымі відамі ДТЗ тым часам з'яўляюцца сутыкненні, наезды на перашкоды, пешаходаў і стаячы транспарт.**

Небяспечнымі становяцца ранішнія гадзіны, калі пасля начных замаразкаў дарога пакрываецца ледзяной скарынкай. Варта толькі прытармазіць ці рэзка павялічыць хуткасць – чакай непрыемнасцяў. Днём дарога падсыхае, але ў цені будынкаў, пад мастамі і эстакадамі пакрыццё застаецца слізкім яшчэ доўга. У такіх месяцах трэба быць асабліва асцярожным.

Адно з найважных умоў бяспекі дарожнага руху – далёкасць бачнасці праезнай часткі. З улікам гэтага фактару і трэба выбіраць хуткасць руху, а таксама дыстанцыю да наперадзе ідучага транспарта. Недастатковая бачнасць, паводле ПДР, складае меней 300 метраў і абумоўлена пагоднымі ўмовамі ці іншымі чыннікамі, якія зніжаюць празрыстасць атмасферы (пыл, дым, смог). Шматлікія кіроўцы пры гэтым абмяжоўваюцца ўключэннем толькі габарытных агнёў, матывуючы гэта тым, што святло фар не паляпшае бачнасць дарогі. Небяспечная памылка! Святло фар у такіх умовах дазваляе зрабіць транспартны сродак лепш бачным для іншых удзельнікаў руху. Габарытныя агні, насупраць, малаэфектыўныя. У шматлікіх выпадках раней распазнаюцца контуры аўтамабіля, чым «габарыткі».

У моцны дождж вада не паспявае сцякаць з дарожнага палатна, утвараючы суцэльную лужыну. Гэтая сітуацыя небяспечная «аквапланіраваннем», калі паміж колам і дарогай застаецца водны пласт. Колы не паспяваюць выціснуць ваду, што змяншае счапленне з дарогай. Кіраванне аўтамабілем губляецца. Адчуць, што машына «паплыла», нескладана: паварочваць руль становіцца незвычайна лёгка. Вельмі важна ў гэты момант зменшыць хуткасць, але без выкарыстання тармазоў. Забудзьцеся пра іх ва ўмовах восеньскай непагадзі і на асфальце, які толькі ўкладзены. Машына становіцца абсалютна непадуладнай. Змяншайце хуткасць і перад вялікімі лужынамі – яны могуць хаваць ямы. Ды і вада можа патрапіць у тармазныя барабаны. Праехаўшы такую лужыну, некалькі разоў націсніце на педаль тормазу і прасушыце такім чынам накладкі. І, вядома, сачыце за гумай колаў свайго аўтамабіля. Калі яна «лысая» – гэта першы крок да аварыі.

Правільных дзеянняў патрабуе ад кіроўцаў рух у тумане, памылковасць заключаецца не толькі ў дрэннай бачнасці. Адбываецца куды больш небяспечная з'ява - скажэнне адлегласці. Часам яна здаецца ў два разы большай, чым ёсць насамрэч. Таму пры трапленні ў паласу туману трэба зменшыць хуткасць і павялічыць дыстанцыю незалежна ад стану дарожнага пакрыцця. Падступства туману выяўляецца яшчэ і ў змене афарбоўкі прамянёў усіх колераў, акрамя чырвонага. Жоўты здаецца чырванаватым, зялёны - жаўтлявым. Кіроўцы, пры руху ў тумане прытрымлівайцеся наступных парад:

1. Калі далёкасць бачнасці дарогі пры ўключаных фар далёкага святла не меней 100 метраў, то варта рухацца з уключанымі супрацьтуманнымі фарамі і далёкім святлом (пры ўмове, што ён не будзе сляпіць кіроўцаў сустрэчнага транспарту).
2. Калі на дарозе туман сярэдні па шчыльнасці, трэба ўключыць блізкае святло фар і «супрацьтуманкі».
3. Калі бачнасць пры блізкім святле не перавышае 10 метраў, трэба ўключыць толькі супрацьтуманныя фары, бо святло звычайных не толькі не дае адчувальнага эфекту, але і, адлюстроўваючыся ў драбнюткіх кроплях туману, будзе сляпіць. Па магчымасці трымайце бакавое шкло адкрытым – гэта дазволіць лепш чуць дарогу.
4. Пад'язджаючы да пешаходных пераходаў, прыпынкаў грамадскага транспарту, скрыжаванняў, чыгуначных пераездаў ва ўмовах шчыльнага туману, уключыце не толькі блізкае святло фар, але і далёкае. А галоўная ўмова бяспекі ў такіх сітуацыях - зніжэнне хуткасці, аж да поўнага прыпынку і адмовы ад лішніх перастраенняў, абгонаў і апярэджанняў. Абавязкова трэба памятаць, што ў тумане кіроўца стамляецца вельмі хутка, таму асцярожнасць яму не перашкодзіць.






*Таццяну Мікалаеўну Ермаковіч*

**Віншуем з юбілеем!**



У человека радостей не так уж много,
И счастье не всегда приходит в дом его,
Но юбилей приходит в дом особо –
Торжественно, значительно, тепло.
И в этот день я от души желаю
Всех благ земных и неземных.
Сердечно с юбилеем поздравляю,
Желаю бодрости, здоровья,
Любви, успехов трудовых.

*Зінаіда Семеж.*

*Алёну Альфрэдаўну Скрабатун*

**Віншуем з юбілеем!**



Пусть минуют тебя все несчастья,
Горит сердце щедрым огнем,
Мы желаем тебе столько счастья,
Сколько солнца летним днем.
И пожелать еще осталось
Людского вечного тепла,
Чтоб все, что хочется, сбывалось,
И жизнь прекрасною была.

*Сям'я Скрабатун*

*Алёну Альфрэдаўну Скрабатун*

**віншуем з днём нараджэння!**



Под всеобщее веселье,
Под бокалов звон,
Поздравляем с Днём рожденья,
Милая Алёна!
В этот день, твой День рожденья,
Пожелаем слёту,
Чтобы не было падений,
А лишь только взлеты.

*Дачка Юля, муж Ігар*

